

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня!*
*М. Багдановіч.*

№16 (308) СНЕЖАНЬ 2021 ГОД


УЛАДА

# ПАМЯНЯЛІ КІРАЎНІКОЎ У РАЁНЕ І ВОБЛАСЦІ

**Лукашэнка ўзгадніў прызначэнне новых кіраўнікоў райвыканкамаў у розных рэгіёнах Беларусі, у тым ліку і ў Шумілінскім раёне.**

Так, на днях Сяргей Галынчык быў узгоднены на пасаду старшыні Шумілінскага райвыканкама. Да гэтага ён працаваў намеснікам старшыні Сенненскага райвыканкама.

Даведка з біяграфіі новага кіраўніка Шуміліншчыны.

Галынчык Сяргей Аляксандравіч нарадзіўся 7 лістапада 1981 года ў вёсцы Ског Сенненскага раёна Віцебскай вобласці. У 2004 годзе скончыў установу адукацыі "Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт" па спецыяльнасці "эканоміка і кіраванне на прадпрыемстве".

Свой працоўны шлях Сяргей Аляксандравіч пачаў у 2004 годзе на пасадзе вядучага спецыяліста Прадстаўніцтва Белдзяржстраху па Сенненскім раёне.

З 2007 па 2013 год знаходзіўся на пасадзе вядучага эканаміста фінансавага аддзела Сенненскага райвыканкама.

У перыяд з 2013 па 2015 год – выконваючы абавязкі старшыні, старшыня Беліцкага сельскага выканаўчага камітэта.

З 2015 года быў назначаны намеснікам старшыні Сенненскага раённага выканаўчага камітэта.

У Віцебскай вобласці – таксама адбыліся змены кіраўніцтва. Кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка памяняў старшыню Віцебскага аблвыканкама Мікалая Шарстнёва.

Цяпер Аляксандр Субоцін замяніць Мікалая Шарстнёва ў крэсле старшыні Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта.

Біяграфія новага старшыні аблвыканкама.

Інфармацыя аб прызначэнні Субоціна кіраўніком Віцебшчыны з'явілася калёсам канале прэс-службы Аляксандра Лукашэнкі.

Мікалай Шарстнёў займаў пасаду старшыні Віцебскага аблвыканкама крыху менш за сем гадоў, 27 снежня 2014 года ён змяніў на гэтай пасадзе Аляксандр Косінца, які пратрымаўся шэсць гадоў.

Аляксандр Субоцін мае досвед працы на Віцебшчыне, каля года ён быў прэзідэнцкім інспектарам па гэтым рэгіёне.

Аляксандру Субоціну 45 гадоў, ён нарадзіўся ў Рубе. Як і папярэдні губернатар, Субоцін – выпускнік ВДАВМ. Акадэмію ён скончыў у 1998 годзе па спецыяльнасці "Ветэрынарны ўрач". У 2000 годзе атрымаў дыплом Міжнароднага інстытута менеджменту па спецыяльнасці "Міжнародныя эканамічныя адносіны" з кваліфікацыяй "Эканаміст-менеджэр". У 2001 годзе яна абараніў кандыдацкую, а ў 2009 – доктарскую па паразіталогіі.

З 2001 па 2014 гады Субоцін працаваў у ветакадэміі на розных пасадах дайшоўшы ў кар'ерным росце да прафесара і першага прарэктара. У снежні 2015 года ён быў прызначаны намеснікам міністра сельскай гаспадаркі і харчавання – дырэктарам дэпартамента ветэрынарнага і харчовага нагляду.

**Алесь Шумскі**

COVID-19

# ШУМІЛІНЦЫ Ў ЛІДЭРАХ ПА ІМУНІЗАЦЫІ

**Галоўны санітарны ўрач Віцебскай вобласці Уладзімір Сінкевіч адзначыў жыхароў Шуміліншчыны як найбольш свядомымі ў імунізацы. Дарэчы, у Віцебскай вобласці ўжо кожны трэці жыхар прышчэплены ад каранавіруса.**

Тым не менш, галоўны санітарны ўрач вобласці Уладзімір Сінкевіч акцэнтуе ўвагу на недастатковай рабоце: "штодня на вакцынацыю ў паліклінікі і мабільныя пункты прыходзяць прыкладна 7-9 тысяч чалавек, а часам і больш. Гэта нядрэнныя, але яшчэ недастатковыя для нас тэмпы. Чым хутчэй будзе прышчэплена большая частка насельніцтва, тым надзейней наш агульны заслон ад COVID-19. Пакуль вакцыну атрымалі каля 300 тысяч чалавек."

Прынамсі, Уладзімір Аляксеевіч пералічвае раёны-лідэры: больш свядомымі на агульным фоне выглядаюць жыхары Шумілінскага, Шаркаўшчынскага, Чашніцкага, Аршанскага, Ушацкага, Верхнядзвінскага і Бешанковіцкага раёнаў. Ніжэй за сярэднеабласныя пакуль паказчыкі імунізацыі насельніцтва ў Глыбоцкім, Лёзненскім і Докшыцкім раёнах.

Уладзімір Сінкевіч адзначае, што задачы сілком прывесці людзей у прышчэпачны кабінет ні ў кого няма. А галоўная мэта – гэта данесці да людзей, да кожнага чалавека, максімум той праўдзівай і ўжо часам даказанай інфармацыі, папярэдзіць аб магчымых наступствах адмовы ад прышчэпкі. Што і робіцца. Але разам з тым кожны вольны выбіраць свой шлях: хадзіць па грані, раз-пораз аглядаючыся на рэанімацыю, або засцерагчы сябе і родных, зрабіўшы прышчэпку. Сёння ўжо відавочна: не трэба ставіць над сабой эксперыменты, вынікі якіх могуць быць трагічныя.

Уладзімір Сінкевіч упэўнены, што на сённяшні дзеньб стабілізаваць эпідэміялагічную сітуацыю, якая яшчэ некалькі тыдняў таму выклікала сур'ёзную трывогу, дапамаглі менавіта меры па актывізацыі стварэння гэтак званага грамадскага імунітэту. Як вынік – многія медустановы рэгіёну, раней перапрафіляваныя пад прыём каранавірусных хворых, змаглі вярнуцца да планавага графіка работы.

Цяпер на Віцебшчыне ўжо праведзена рэвакцынацыя каля дзесяці тысяч чалавек. У асноўным гэта медыкі, фармацэўты, супрацоўнікі і пацыенты сацустаноў, людзі з групы рызыкі цяжкай плыні COVID-19. Усе яны былі прышчэплены паўгода таму і раней.

Да таго ж "аблегчаны варыянт" вакцыны ў выглядзе «Спадарожніка Лайт» атрымалі больш за восем тысяч студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў і навучэнцаў прафесійных сярэднеспецыяльных устаноў ва ўзросце ад 18 да 25 гадоў. Нават было прышчэплена больш за 300 цяжарных жанчын і кормячых маці.

**Алесь Шумскі**

---

**ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY**

---

РЫНАК ПРАЦЫ

# ВАКАНСІІ СА СЦІПЛЫМ ЗАРОБКАМ

**Якія вакансіі маюцца зараз ў Шумілінскім раёне на пачатак студзеня? У агульнарэспубліканскай базе Міністэрства працы і сацыяльнай абароны па Шумілінскаму раёну на сённяшні дзень маецца багата вакансій – усяго налічваецца 108 рабочых месцаў. Праўда аднак, заробкі тут яшчэ параўнальна сціплыя.**

Як і заўсёды, на Шуміліншчыне першае месца па дэфіцыту кадраў устойліва трымае сельскагаспадарчая галіна. Аднак цяпер сельская гаспадарка раёна шукае найперш высокакваліфікаваных кадры.

ААТ «АграБаравінка» запрашае на работу аператара машыннага даення, інжынера па механізацыі працаёмкіх працэсаў, эканаміста, бухгалтара, аграномa, галоўнага эканаміста, галоўнага бухгалтара, галоўнага ветурача. З/п 600 – 1636 руб. Тэл. 8 02130 3-81-10.

КУСГП «Сіроцінскі» мае патрэбу ў аператарах машыннага даення (2 вакансіі); загадчыку малочнатаварнай фермы; вадзіцелю аўтама-біля; трактарыста-машыніста (2 вакансіі). З/п 500 – 650 руб. Тэл. 8 02130 5-45-17.

УП «Лаўжанскае» чакае ветурача (3 вакансіі, з/п 800 руб.); майстра будаўнічых і мантажных (рамонтна-будаўнічых) работ і інжынера-механіка, з/п 500 руб.

СФГ «Раднік» не хапае галоўнага агранома і трактарыста машыніста, з/п 500 руб. Тэл. 8 02130 5-10-41.

У медычнай сферы па-ранейшаму вострыя дэфіцыт розных спецыялістаў.

УЗ «Шумілінская раённая бальніца» зараз чакае:

урачоў-спецыялістаў (7 вакансій, з/п ад 960 да 1200 руб.);

загадчыка Полькавіцкага ФАПа, з/п 800 руб);

фельчараў у Сіроцінскі, Ляжнеўскі, Язвінскі, Дабейскі, Амбросавіцкі ФАПы, з/п 800 руб);

медыцынскіх сясцёр (з/п 560 – 600 руб);

акушэрак (у Мікіціхінскую і Мікалаеўскую амбулаторыі (з/п 650 руб);

санітарку на 0,5 стаўкі ў Башнёўскі ФАП.

слесара-электрыка па рамонце абсталявання ў ЦРБ, з/п 450 руб.

Тэлефон для даведак 8(02130) 4-15-07.

На сёння маецца работа і ў мясцовых аптэках. У Шуміліне ёсць вакансіі фармацэўта-рэцэптара (цэнтральная аптэка №40, аптэка №374 па вул. Сіпко), аптэка №42 у г. п. Обаль; правізара-рэцэптара на 0,5 стаўкі (цэнтральная аптэка №40). Зарплата ад 450 да 900 руб. Тэл. +375 (21) 254-92-21; +375 (21) 254-92-21, +375 (29) 687-11-55.

Шумілінскаму раённаму цэнтру гігіены і эпідэміялогіі патрабуюцца: урач-спецыяліст (з/п 727 руб.); вадзіцель аўтамабіля на 0, 5 стаўкі з зарплатай 237 руб. Тэл. 8 02130 4-41-14.

Шумілінскаму раённаму цэнтру культуры патрабуюцца 9 спецыялістаў : рэжысёр; хормайстар (2 вакансіі: 0,5 стаўкі ў РЦК і ёсць 1 стаўка ў Обальскім ДК); балетмайстар (0,5 стаўкі); кіраўнік студыі, калектыву (непрафесійнай (аматарскай) мастацкай творчасці); загадчык Слабадскога СДК; загадчык Мішневіцкага СК; культарганізатар у Лаўжанскі СЦКіД; метадыст бібліятэкі (клубнай установы, навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці); вадзіцель аўтамабіля. Зарплата ад 250 руб. (0,5 стаўкі) да 450 руб. Званіць па тэлефоне для даведак: 8(02130) 4-20-66.

Шумілінская раённая бібліятэчная сістэма запрашае на пасаду ў бібліятэкары (у Мішневічах), з/п 450 руб. Тэл. 8(02130) 5-71-30.

**Прамысловасць раёна**

Обальскі керамічны завод мае свабодную вакансію галоўнага энергетыка, з/п 1000 руб. Тэл. 8 02130 3-64-80.

ААТ «Віткопрадукт» запрашае на працу вытворцу паўфабрыкатаў з мяса птушкі (3 вакансіі); укладчыка-упакоўшчыка (5 вакансій). Заробак 800 руб. Тэл. 8-0212-61-51-14.

УП «Славянскі прадукт» шукае інжынера-хіміка, з/п 600 руб. Тэл. 8 02130 5-14-72.

УП ЖКГ займеў вакансіі аператара кацельні; машыніста (качагара)

***(працяг на стар. 2)***

РЫНАК ПРАЦЫ

(пачатак на стр. 1)
кацельні; рабочага па комплексным абслугоўванні і рамонце будынкаў і збудаванняў; ізаліроўшчыка на гідраізаляцыі; майстра ўчастка (майстра кацельні г. п. Обаль); слесара-сантэхніка (падраздзяленне Сіроцінскае). Зарплата 500-750 руб. Тэл. 8 02130 4-92-48.

КУП БАН чакае на працу вадзіцеля аўтамабіля; трактарыста (2 вакансіі); вальшчыка лесу. Зарплата 420 – 500 руб. Тэл. 8 02130 5-19-04.

**Будаўніцтва**

Шумілінская ПМК-70 шукае кадры: вадзіцеля аўтамабіля (лесавоз), вальшчыка лесу, сталяра, эканаміста. Тэл. 8 02130 5-17-94. Заробак ад 600 да 1000 руб.

Шумілінскаму лясгасу зараз патрэбны: галоўны бухгалтар, трактарыст на падрыхтоўцы лесасек, тралёўцы і вывазцы лесу, вальшчык лесу (2 вакансіі), электрагазазваршчык, ляснік (4 вакансіі). Зарплата 800 – 900 руб. Тэл. 8 02130 5-16-21.

**Гандалёвая сфера**

ЗАТ «Дабраном», філіял г. Крычаў (г. п. Обаль) цяпер прапануе свабодныя вакансіі:

дырэктара філіяла (г. п. Шуміліна, з/п 1400 руб); загадчыка аддзела (2 вакансіі ў Шумі-ліне, з/п 870 руб.); кантралёра-касіра (2 вакансіі ў Шуміліне і 1 вакансія ў Обалі, з/п 700 руб.). Тэл. 8 044 789-60-47.

ТАА «Еўрагандаль» – патрэбны кантралёр-касір, з/п 550 руб. Тэл. +375 (29) 342-64-26.

**Сацыяльная сфера**

Тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва Шумілінскага раёна запрашае на работу загадчыка аддзела, з/п 610 руб. Тэл. 802130 4 20 73.

Па ўсяму бачна, што самыя высокія заробкі па раёну прапануе гандлевая арганізацыя дырэктару да 1400 рублёў, самыя нізкія ў цэнтры культуры: ад 250 да 450 рублёў.

**Алесь Шумскі**

ЗДАРЭННЕ

# ЛАЎРЭАТЫ СЯРОД МОЛАДЗІ

**Пяцікласніца Карына Трашчанка з Шумілінскага раёна – лаўрэат прэміі аблсавета па падтрымцы таленавітай моладзі.**

Обальскай дзіцячай школы мастацтваў па класе фартэпіяна, – лаўрэат прэміі абласнога Савета дэпутатаў па падтрымцы таленавітай моладзі за высокія дасягненні ў навучальнай, канцэртнай і конкурснай дзейнасці.

У творчай скарбонцы юнай артысткі нямала ўзнагарод. З ліку апошніх – дыплом I ступені II Рэспубліканскага конкурсу мастацтваў "Музычны феерверк", дыплом III ступені III Рэспубліканскага конкурсу дзіцячай і юнацкай творчасці "Запалі сваю зорку". А міжнародны конкурс "Вышыня", які праходзіў у маі гэтага года, прынёс Карыне Трошчанка і яе выкладчыку Наталлі Івановай дыплом лаўрэатаў I ступені ў намінацыі "Настаўнік - вучань".

Галоўны сакрэт перамог – упартая праца дзяўчынкі і падтрымка яе родных, а таксама індывідуальны падыход настаўніка Наталлі Івановай, якая ўсяляк імкнецца развіваць здольнасці юнага таленту і накіроўваць іх у патрэбнае рэчышча. Педагог перакананa, што талент, стараннасць і мэтанакіраванасць – складнікі поспеху.

– Карына – сапраўдны баец, – адзначыла Наталля Іванова. – Нягледзячы на тое, што яна сарамлівая, сваёй ігрой на інструменце можа выказаць шматлікае. Карына старанная, займаецца з вялікай стараннасцю, а таксама праводзіць каласальную працу над сабой. Яе поспехі і творчы рост з кожным навучальным годам становяцца ўсё больш прыкметнымі. Карына на дакладным шляху да музычнага алімпу.

**vitvesti.by**
**Пераклад з расейскай рэдактара**

СПОРТ

# БЛІСКУЧА ВЫЙГРАЛА СПРЫНТ

**Наша шумілінская зямлячка Ганна Сола ўпершыню ў кар'еры выйграла спрынтарскую гонку 3-га этапа Кубка свету ў Хохфільцэне.**

Беларуска пераадолела дыстанцыю 7,5 кіламетра з 2 агнявымі рубяжамі без промахаў, паказаўшы час 20 хвілін і 44,4 секунды.

Другое месца ўзяла прадстаўніца Францыі Жусцін Брэза-Бушэ,якая дапусціла два промахі і ўступіла беларусцы аж 46,8 секунды.На трэцяе месца паднялася нарвежская біятланістка Марце Ройсланд, якая прайшла дыстанцыю без промахаў з адставаннем ад пераможцы ў 50,3 секунды.

Для 25-гадовай Солы гэта першая ў кар'еры перамога на этапах КС. На старце сезона беларуска ўпершыню ўзнялася на п'едэстал кубкавых этапаў, завяваўшы бронзу ў спрынтарскай гонцы ў Эстэрсундзе.

Астатнія беларускі сёння паказалі наступныя вынікі: у Дзінары Алімбекавай — восьмае месца з адным промахам і адставаннем у хвіліну і 8,1 секунды, у Ірыны Лешчанкі — 44-е месца з трыма промахамі і адставаннем у дзве хвіліны і 21,2 секунды, у Алены Кручынкінай — 85-е месца з чатырма промахамі і адставаннем у 3 хвіліны і 27,8 секунды, у Ірыны Кручынкінай — 95-е месца з пяццю промахамі і адставаннем у 3 хвіліны і 48,9 секунды.

**Алесь Прыбяржэны**

ВАКОЛ СПОРТА

# КАНФЛІКТ СЯРОД БІЯТЛАНІСТАК

**На першым этапе Кубка свету ў Эстэрсундзе зборная Беларусі стала другой у эстафеце, Ганна Сола ўзяла бронзу ў спрынце, Дзінара Алімбекава там жа апынулася ў колерах. Дзяўчыны на ўздыме ў алімпійскі год і прэтэндуюць на медалі ў асабістых гонках і эстафетах нароўні з нарвежкамі, шведкамі і францужанкамі. Але наспелы канфлікт у камандзе можа нашкодзіць планам, як некалі здарылася з Віттоцы і Каўкалавай.**

Сыход Дар'і Домрачавай з біятлону ў 2018-м, як многім здавалася, пазбавіў Беларусь топавага фінішэра – золата ў эстафеце Пхёнчхана зацягнула ходам будучая чатырохразовая чэмпіёнка Гульняў. На трасе і пры ўдалай стральбе спартсменка брала любыя гонкі – так яна аформіла хет-трык у Сочы-2014. Але пасля завяршэння кар'еры зборную цягнуць напарніцы: спачатку ў топе замільгала Алімбекава, бронзай у спрынце на чэмпіянаце свету ў Паклюцы-2021 адзначылася Сола.

Змена пакаленняў прайшла практычна бязбольна, і каманда зноў можа ўхапіцца за тройку ў алімпійскім Пекіне – у Кубку нацый яна ўваходзіць у топ-3. Але наспяваючы з лета канфлікт выйшаў на пік упрытык да Гульняў. Лакальныя сваркі перараслі ў міжнародны скандал – дзяўчаты перасталі хаваць незадаволенасць адна адной. Звычайна ўнутрыкамандныя разборкі руіняць вынікі адной з напарніц і ствараюць таксічную атмасферу. Так, напрыклад, было з Габрыэлай Коўкалавай і Лізай Вітоцці.

Хохфільцэн. Пераможны фініш Солы ў спрынце – ніхто не змог да яе дацягнуцца.

Новы хлопец і зорная хвароба

Канфлікт паміж Алімбекавай і Солай выйшаў за межы зборнай пасля сярэбранай эстафеты ў Эстэрсундзе. Ганна не адзначыла Дынару ў пасце аб дэбютным камандным медалі сезона, але не забылася пра калегаў Ірыну Лешчанку і Алену Кручынкіну. Аказалася, Сола зусім заблакіравала Алімбекаву ў Інсце. «Я ў блоку пасля гонкі», – адказала Дзінара падпісанту.

Незразумела, з чым звязаны выпад Солы менавіта цяпер, напярэдадні Алімпіяды – канфлікт цягнецца як мінімум з лета. Але ў апошні час ён маштабаваўся і перастаў быць толькі міжусобіцай двух. Ёсць некалькі прычын аддалення Алімбекавай ад каманды. Першая – рамантычныя адносіны з капітанам мужчынскай зборнай Антонам Смольскім, хаця яшчэ ў міжсезонне 2020-га Дзінара рыхтавалася да вяселля з расіянінам Кірылам Стральцовым і нават планавала пераезд на радзіму хлопца. Але каранцін аддаліў партнёраў, і хлопцы сталі бачыцца радзей.

На разрыў расійска-беларускай пары паўплывалі і летнія зборы з мужчынскай зборнай. Як прызнавалася Алімбекава, ёй яшчэ ў дзяцінстве было больш камфортна з хлопцамі, а на трасе і стрэльбішчы праца з мужчынамі толькі дапамагала прагрэсаваць. «З імі нашмат прасцей нават у звычайным жыцці. Я заўсёды сябравала з хлапчукамі», – казала Дынара. За два гады яна прарвалася ў дзясятку таталу, хоць да гэтага буксавала ў межах сотні. Усе асабістыя дысцыпліны ў сезоне –2020/21, акрамя мас-старту, Дзінара закрыла ў топ-10. Узлёт звязаны не толькі з функцыянальнай, але і псіхалагічнай устойлівасцю - адносіны з аднадумцам прынеслі спакой і стабільнасць.

Адно "але" бянтэжыла навакольных: Смольскі быў жанаты на калегу і былой біятланістцы юніёрскай зборнай Беларусі Дар'і Ерапес, якая ў тыя гады перажывала не лепшы этап у жыцці – лячылася ад раку шчытападобнай залозы. Яго знайшлі на ранняй стадыі, хвароба адступіла пасля аперацыі і сеансаў радыёёдтэрапіі. Сёння пара ў разводзе, але на той момант адной з магчымых прычын ужо цьмеюць адносін стала Алімбекава. У снежні 2020-га тандэм Дзінары і Антона бляклa выступіў на Калядней гонцы ў Гельзенкірхене, але завяршыў год навагодняй вылазкай у Дубаі. Да новага захаплення Дзінары практычна ўсе напарніцы паставіліся скептычна: Алімбекава толькі і рабіла, што сустракала дакорлівыя погляды.

Асаблівa востра адрэагавала Сола – даўняя знаёмая былой Смольскага. Крыўду Ганна выплюхвала парцыённа: напрыклад, не запрасіла Дзінара на вяселле з велагоншчыкам Станіславам Бажковым, хоць там былі расіянкі Ульяна Нігматуліна і Ларыса Кукліна. Ды і на ліпеньскім дзявочніку ў Раўбічах былі ўсе зборніцы, акрамя Алімбекавай.

Пікантнасці гэтай гісторыі быццам наўмысна надае і Дзінара: яна, па словах напарніц, злавіла зорку і стала пагардлівай па стаўленні да астатніх. Спартсменка ўсё радзей трэніравалася з жаночай зборнай, а затым пайшла на самападрыхтоўку і не з'явілася на каманднай фотасесіі напярэдадні старту Кубка свету. На кадрах былі Ірына Лешчанка-Крыўка, Сола, Алена і Ірына Кручынкіны, але не пстрыкнулася якраз лідэр Беларусі. Сітуацыю пракаментавала сама Алімбекава, заявіўшы, што камандная здымка для яе не ў прыярытэце. «Аднаўленне да і пасля нагрузак замест фотасесіі для мяне пакуль важней».

Яна мінімізавала зносіны з дзяўчатамі і па-за спортам: замяніла яго на адпачынак з блізкімі. «Гэта індывідуальны від спорту, не заўсёды мы можам быць разам. У прафесійным плане ў нас добрыя адносіны. Я не наведваю камандныя вечарынкі, стараюся больш адпачываць і надаваць час сабе і свайму кату», - сказала Алімбекава беларускаму Пятаму каналу.

Канфлікт італьянак, варожасць чэшак

Элітныя біятланісткі канфліктавалі і да беларускага кейса. Лаяліся італьянкі Даратэя Вірэр і Ліза Вітоцці, чэшкі Габрыэла Каўкалава і Вераніка Віткова. У кожнай пары непрыязнасць адбівалася на выніках адной з дзяўчат. Адносіны Лізы і Дора загубіў выпадак на чэмпіянаце свету ў Эстэрсундзе-2019. Там Вірэр кінула жаночую зборную ў эстафеце нібыта з-за праблем са здароўем. Як распавяла Вітоцці праз год, Даратэя прапусціла гонку зусім па іншай прычыне.

**eurosport.ru**
**Пераклад з расейскай рэдактара**

АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

РАСПАД СССР

# РАСЕЯ ІМКНЕЦЦА ПЕРАЙГРАЦЬ ГІСТОРЫЮ. ЧАТЫРЫ ВЫСНОВЫ ДА 30-ГОДЗЬДЗЯ РАСПАДУ СССР

**8 сьнежня 1991 году кіраўнікі Расеі, Украіны і Беларусі ў Белавескай пушчы падпісалі заяву, у якой канстатавалі, што СССР «спыняе сваё існаваньне», і абвясьцілі пра ўтварэньне СНД. Палітычны аглядальнік Свабоды Валер Карбалевіч падсумоўвае прамінулыя 30 гадоў.**



Заключэньне Белавескіх пагадненьняў насельніцтва былога Савецкага Саюзу ўспрыняло амаль абыякава. Мала хто разумеў гістарычнасьць таго, што адбылося. Некалькі палітыкаў сабраліся ў пушчы і прынялі яшчэ адзін дакумэнт. Колькі іх ужо прымалі падчас гарбачоўскай перабудовы! Памянялі назву, замест СССР цяпер краіна будзе называцца Садружнасьць Незалежных Дзяржаў (СНД). Усяго толькі. Цікава, што і самі «пушчысты» да канца не разумелі, што пачынаецца новая эпоха. Лішні раз спраўдзіўся вядомы радок, што вялікае бачыцца на адлегласьці.

**Выснова 1: канец СССР быў прадвырашаны**

З пачаткам гарбачоўскай «перабудовы» распад СССР быў прадвырашаны. Лёс Савецкага Саюзу аказаўся неаддзельны ад лёсу рэжыму. Немагчыма, зьдзяйсьняючы лібэралізацыю, паслабленьне таталітарнай сыстэмы, адначасова спрабаваць спыніць працэс нацыянальнага і рэгіянальнага сэпаратызму.

Невыпадкова асноўнай ударнай сілай, якая разгайдала, а затым і разламала таталітарны рэжым у СССР, былі нацыянальныя рухі, народныя франты.

Спробы стварыць «дэмакратычны абноўлены СССР», дэман-таваўшы камуністычны рэжым, захаваць Саюз, пацярпелі праваль. Занадта жорстка былі зьмацаваныя імпэрыя і камуністычная сыстэма, каб аддзяліць адну ад аднае. Магчымы быў альбо імпэрскі, таталітарны Савецкі Саюз, або, як вынік дэмакратызацыі, — падзел яго на шэраг самастойных дзяржаў. І ўсе спробы спыніць гэты працэс заканамерна праваліліся.

Не дапамог рэфэрэндум 17 сакавіка 1991 году з хітра пастаўленым пытаньнем, а дзяржаўны пераварот 19 жніўня (ГКЧП) таго ж году толькі прысьпешыў крах СССР.

Дарэчы, распад сацыялістычных Югаславіі і Чэхаславаччыны лішні раз пацьвярджае гэтую заканамернасьць.

Адразу пасьля падзелу СССР на незалежныя дзяржавы шмат пісалі, што дзіва, як такая «геапалітычная катастрофа» завяршылася мірным, цывілізаваным разводам. Вось, напрыклад, распаду Югаславіі спадарожнічала доўгая, крывавая грамадзянская вайна, у якую давялося ўмяшацца сусьветнай супольнасьці, каб нарэшце спыніць яе.

Хоць, строга кажучы, дэмантаж СССР быў не зусім мірны. Можна ўзгадаць армяна-азэрбайджанскую вайну за Нагорны Карабах, грамадзянскія войны ў Таджыкістане, Грузіі, Малдове. Аднак даволі хутка іх удалося замарозіць.

**Выснова 2: распад СССР працягваецца, Расея імкнецца перайграць гісторыю**

Але цяпер, пасьля 30 год ад той падзеі, становіцца больш зразумела, што распад СССР — ня як юрыдычны акт, а як гістарычны працэс — ня скончыўся, ён працягваецца. У 2008 годзе адбылася вайна паміж Расеяй і Грузіяй. Вось год таму адбылася другая Карабаская вайна паміж Азэрбайджанам і Арменіяй.

Але самай галоўнай прыкметай зацягнутага распаду СССР стала вайна Расеі супраць Украіны, захоп Расеяй Крыму і Данбасу. Сацыялягічныя апытаньні паказваюць, што РФ — адзіная постсавецкая краіна, у якой большасьць насельніцтва ацэньвае распад СССР адмоўна. Ва ўсіх іншых постсавецкіх краінах стаўленьне да гэтай падзеі станоўчае. І цяпер кіраўніцтва Расеі імкнецца перайграць гісторыю, як футбольны матч, адкруціць час назад і калі не аднавіць поўнасьцю СССР, то хоць бы ўсталяваць кантроль над прасторай былога Саюзу.

Сёньня гэтая палітыка РФ выліваецца ў стратэгію пэрманэнтнага напружваньня Захаду. Напрыклад, з гэтай мэтай Расея пэрыядычна разьмяшчае свае войскі на мяжы з Украінай. Дарэчы, міграцкі крызіс, арганізаваны беларускім кіраўніцтвам, добра ўпісваецца ў гэтую стратэгію.

**Выснова 3: большасьць постсавецкіх краінаў правалілі мадэрнізацыю**

Другі важны момант з нагоды гэтага юбілею. Відавочна, што савецкая сыстэма — тупіковая лінія гістарычнага працэсу. Пасьля краху СССР усе постсавецкія краіны атрымалі шанец выйсьці з тупіку і, скінуўшы савецкія ланцугі, зрабіць рывок у сваім развіцьці.

Аднак цяпер, пасьля 30 гадоў самастойнага жыцьця, можна зрабіць выснову, што скарысталіся ў поўнай меры гэтым шанцам толькі краіны Балтыі. Усе астатнія постсавецкія дзяржавы свае мадэрнізацыйныя праекты правалілі. Каб разумець, што я маю на ўвазе, прапаную параўнаць іх з Кітаем. КНР за 30 гадоў зрабіла вялізны скачок у сваім разьвіцьці, ацэнены ўсім сьветам, стала паўнавартаснай звышдзяржавай. У гэтым сэнсе вынікі разьвіцьця постсавецкіх краін, скажам так, ня ўражваюць. Прычым гэта тычыцца як тых краін, якія правялі рынкавыя рэформы, так і тых, дзе дамінуе дзяржаўны сэктар (Беларусь), як тых, дзе ўсталявалася дэмакратыя, так і дзяржаў з аўтарытарнымі рэжымамі. Чаму так атрымалася, пытаньне асобнай дыскусіі.

**Выснова 4: беларуская дзяржаўнасьць стала пабочным прадуктам будаўніцтва аўтарытарнага рэжыму**

У канцы коратка пра Беларусь. Апошні год асабліва ярка паказаў, што будаўніцтва беларускай дзяржаўнасьці стала пабочным прадуктам будаўніцтва аўтарытарнага рэжыму Лукашэнкі. Гэты тэзіс вельмі добра ілюструе нядаўняя заява міністра замежных спраў Уладзімера Макея, што пагроза існаваньню дзейнага рэжыму ад заходняга санкцыйнага ціску азначае пагрозу страты незалежнасьці Беларусі. Аказалася, што ўладныя органы — гэта не інстытуты дзяржавы, а структуры, створаныя для абароны рэжыму. Такі вынік 30-гадовага існаваньня.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

АНАЛІТЫКА

# ШЕДЕВР ПОЛИТИЧЕСКОЙ МЫСЛИ

**«Своим заявлением Макей еще больше убедил Запад, что главная угроза независимости Беларуси – это сегодняшняя белорусская власть». Политолог Валерий Карбалевич — о важных событиях последних дней: заявление Макея, контрсанкции, Саммит ЕАЭС.**

**Заявление Макея**

3 декабря министр иностранных дел Беларуси Владимир Макей в интервью телеканалу «Беларусь 1» сделал заявление, взбудоражившее общественность. Он сказал: «Беларусь рискует потерять государственность, если санкционное давление будет продолжаться. Хотя мы сделаем все, чтобы такого не случилось. А Европейский союз навсегда потеряет Беларусь. И я думаю, что это абсолютно не в интересах Европы».

Стенограмма интервью была опубликована на сайте МИД. Из чего следует, что это не случайно вырвавшаяся фраза, а программное заявление.

Утверждение министра выглядит удивительным по своей откровенности. Такой своеобразный шедевр политической мысли нынешней власти. В переводе на понятный язык его можно прочитать так.

Во-первых, независимость Беларуси для правящего режима не является ценностью, и он готов сдать ее при каких-то обстоятельствах. Белорусская государственность — это побочный продукт строительства авторитарного режима.

Выяснилось, что нынешние властные органы — это не институты государства, а структуры, созданные для защиты режима. Оказавшись перед выбором — отдать власть народу или России — белорусское руководство выберет второй вариант.

Во-вторых, сближение с Россией, усиление интеграции действительно угрожает суверенитету Беларуси. А ведь Лукашенко до сих пор это категорически отрицал, уверяя, что независимость нашего государства незыблема. А Макей теперь это признает, разрушив все официозное благолепие. Получается, что 30 лет независимости Беларуси были впустую?

В-третьих, из заявления Макея следует, что независимость Беларуси для Запада должна быть более важна, чем для политического руководства Беларуси. И этим Европу можно шантажировать. Дескать, если будете вводить санкции, то назло ЕС мы сдадим независимость, объединимся с Россией.

Но дело в том, что в результате последних действий официального Минска (угроза воевать с Украиной, признание Крыма российским) Запад все меньше считает Беларусь независимой страной. Особенно это касается военного аспекта.

В итоге своим заявлением Макей еще больше убедил Запад, что главная угроза независимости Беларуси — это сегодняшняя белорусская власть.

**Контрсанкции**

6 декабря белорусское правительство, реагируя на западные санкции, приняло меры в ответ. Так сказать, контрсанкции.

Из той воинственной риторики, которая звучала накануне, можно было ожидать, что эти ответные санкции будут очень жесткими, коснутся западных компаний в Беларуси.

Лукашенко даже угрожал перекрыть газопровод, транзит грузов. Но в итоге все получилось достаточно скромно. Постановлением правительства запрещен импорт продуктов питания из европейских стран.

У властей хватило здравого смысла, условно говоря, не стрелять себе в ногу. Что уже само по себе удивляет.

Вряд ли эта мера нанесет большой урон экономике ЕС. Потому что белорусский рынок небольшой.

Если говорить о последствиях, то это вызовет рост цен в Беларуси на продукты питания. Потому что придется покупать их в других, неевропейских странах. Что дороже и, скорее всего, отрицательно скажется на качестве продукции.

Постановлением правительства вводятся специальные квоты для критически важного импорта. А там, где вводятся эксклюзивные квоты, всегда расширяется поле для коррупции.

Важно обратить внимание, что Россия ввела запрет на импорт продовольствия из ЕС в 2014 году. Беларусь тогда не пошла вслед за союзником. В итоге через нашу территорию в РФ начала поступать контрабанда европейского продовольствия. Что породило легенды о белорусских креветках и сыре пармезан.

Теперь Беларусь приняла те же меры, что и Россия семь лет назад. Такой очередной жест лояльности в сторону Москвы. Станет ли это ударом по контрабанде? Не факт. Ибо, как отмечалось, правительство сохраняет за собой право выдавать квоты на импорт некоторых товаров. Что оставляет возможность сохранения серых схем в торговле с Россией.

*(працяг на стар. 4)*

АНАЛІТЫКА

(пачатак на стар. 3)

**Саммит ЕАЭС**

10 декабря состоялось заседание Высшего Евразийского экономического совета в режиме видеоконференции. В повестке дня достаточно рутинные вопросы.

Но в выступлении Лукашенко было два интересных момента. Прежде всего, он демонизировал Запад и пытался побудить лидеров ЕАЭС придать деятельности этого союза антизападную направленность.

А еще заявил: «Мы обладаем информацией, что уже и в ваши министерства иностранных дел пошли визитеры из западных стран и Соединенных Штатов Америки, уговаривая вас подключиться к давлению на Беларусь... Вас будут душить, настраивая против Беларуси, чтобы вы подключились к этим санкциям против нашей страны».

Информация интересная. То есть Запад не ограничился введением санкций, а пытается организовать полномасштабную блокаду Беларуси, воздействуя на другие государства, которые тесно сотрудничают с нашей страной. Это с одной стороны.

А с другой стороны, выяснилось, что США выдали лицензию Белорусской калийной компании до 1 апреля 2022 года. И Литва не собирается блокировать транзит белорусского калия через свои порты. Такие своеобразные санкции.

**Валерий Карбалевич**
**Свободные новости плюс**

ДВА ПОГЛЯДЫ

# САМАЛЁТ З ПРАТАСЕВІЧАМ ДАПАМАГАЎ САДЖАЦЬ АФІЦЭР КДБ?

**Днямі стала вядома, што былы авіядыспетчар «Белаэранавігацыі» Алег Галегаў, які пакінуў Беларусь, прызнаўся, што ён пад наглядам афіцэра КДБ вёў перамовы з самалётам Ryanair, якім ляцеў Раман Пратасевіч з Афін у Вільню. А 10 снежня Польшча агучыла некаторыя дэталі гэтай гісторыі.**

«Наша Ніва» параўнала дзве версіі падзей: ад польскіх спецслужб і беларускіх уладаў.

**Палякі:** ў гэты дзень працаваў дыспетчар Алег Галегаў. Каля 9:00 універсальнага часу (12:00 па Мінску) у залу кантролю палётаў зайшоў кіраўнік «Белаэранавігацыі» Леанід Чуро і чалавек, якога ў Польшчы назвалі супрацоўнікам спецслужбаў. Пасля гэтага Чуро сышоў.

Мужчына праінфармаваў дыспетчараў, што на борце самалёта Ryanair знаходзіцца бомба, і ён павінен сесці ў Мінску.

Вось што распавялі прадстаўнікі **беларускага Дэпартамента па авіяцыі:** у 12.30 па беларускім часе самалёт увайшоў у беларускую паветраную прастору, а ў 12.31 дыспетчар паведаміў пілотам пра бомбу.

«У нас ёсць інфармацыя ад сакрэтных службаў, што ў вас на борце бомба. Гэтая бомба можа быць актываваная над Вільняй», — кажа дыспетчар у 12.31. Расшыфроўку перамоваў Дэпартамент па авіяцыі апублікаваў на сваім сайце.

Польскія спецслужбы сцвярджаюць, што былі прынятыя меры для таго, каб размовы з рэйсам не былі чутныя ў іншых самалётах. Пры гэтым нібыта абслугоўваннем рэйса займаўся адзін дыспетчар пад кантролем спецслужбістаў. У ролiку гаворыцца, што мужчына звязваўся па тэлефоне з чалавекам, якога называў Андрэй Анатолевіч.

Дыспетчар паведаміў пілоту, што ліст з пагрозамі аб бомбе прыйшоў у аэрапорты некалькіх краін. Таксама ён парэкамендаваў самалёту сесці ў Мінску. Пілот удакладніў: хто рэкамендуе сесці ў Мінску? Кампанія, аэрапорт вылету, аэрапорт прылёту?

Дыспетчар кажа: гэта наша рэкамендацыя.

У гэтым моманце палякі настойваюць: дыспетчару падказваў той самы таямнічы афіцэр. У якасці доказу прыводзіцца кавалак аўдыя, дзе мужчына на рускай мове падказвае падчас перамоваў дыспетчара і пілота.

Пасля ў расшыфроўцы перамоваў, апублікаванай беларускім бокам, пілот удакладняе пра код небяспекі: зялёны, жоўты, аранжавы, чырвоны?

Дыспетчар адказвае: код чырвоны.

На аўдыязапісе палякаў чуваць, як дыспетчар перакладае невядомаму пытанне пілота на рускую мову. Невядомы кажа: «Скажы, код чырвоны».

Пасля гэтага пілот разварочвае самалёт для пасадкі ў Мінску. Да выхаду з беларускай паветранай прасторы заставалася дзве хвіліны палёту. Пасля гэтага, сцвярджаюць палякі, той невядомы мужчына, якога яны называюць афіцэрам КДБ, пакінуў залу кантролю палётаў.

Таксама палякі звяртаюць увагу, што ліст аб бомбе аэрапорты Вільні, Афін, Сафіі, Бухарэста і Кіева атрымалі ў перыяд з 9.25 да 09.34 універсальнага часу (з 12.25 да 12.34 па Мінску), а ў аэрапорт Мінска яно паступіла толькі ў 09.56 універсальнага часу — у 12.56 па Мінску, ужо пасля таго, як дыспетчар распавёў пра бомбу пілоту.

Таксама беларускі бок заяўляў, што ліст пра бомбу прыйшоў ад салдат ХАМАС. Вось толькі пазней ХАМАС афіцыйна абверг сваю датычнасць да «мініравання».

А кампанія Proton Technologies, якая прадстаўляе паслугі абароненай электроннай пошты, афіцыйна пацвердзіла, што ліст з пагрозай, на які спасылаліся ўлады Беларусі, быў адпраўлены праз 24 хвіліны пасля таго, як аб мініраванні паведаміў капітану паветранага судна.

**Nashaniva.com**

РАСІЯ - БЕЛАРУСЬ

# РОССИЙСКАЯ ПРОПАГАНДА ГОТОВИТ БЕЛОРУСОВ К ВОЙНЕ?

**На минувшей неделе прокремлевские медиа резко активизировались по теме вооруженных конфликтов в нашем регионе.**



— Главной причиной миграционного кризиса является желание определенной части американских, а в большей степени британских элит, спровоцировать войну против Республики Беларусь, Союзного государства и в конечном итоге против Российской Федерации. Конфликт на польско-белорусской границе является частью этой мозаики, — вещает на Sputnik Беларусь российский политический эксперт Владимир Киреев.

Серьезно? Спровоцировать войну против России, которая обладает ядерным оружием? Или Беларуси, за которую Кремль неизбежно вступится? Да даже Александр Лукашенко уверен, что враги «сюда никогда не сунутся».

Однако Sputnik муссирует тезис о предстоящем вторжении Запада по полной программе. Небезызвестный Гоблин утверждает, что «мы стоим на пороге войны России и Запада». Еще одним ретранслятором методички работает Ростислав Ищенко: «Запад приложит максимум усилий, чтобы мигрантский кризис на границе Беларуси с Польшей перерос в вооруженный конфликт и даже в войну».

Тот же нарратив распространяется через другие подконтрольные Москве медиа, в том числе телеграм-каналы. В частности, Мадуро — не дура пишет:

«Под шум в европейских СМИ, Польша двигает к границам Белоруссии и Калининградской области свои военные подразделения. В тоже время Украина, разыгрывает свой сценарий истерии связанный с „агрессией России и Донбасса" и тоже двигает войска к границам России и Белоруссии. Вероятность полномасштабного конфликта по всей ЛБС — поднялась до максимальных значений.

Все что происходит не что иное как попытка военных провокаций. И не важно, где они произойдут — на Украине, на границе Белоруссии и Польши. Главное результат — спровоцировать Россию на ответные действия, подчеркну — не слова, а действия».

Порой «политруки» ухитряются заблудиться в трех соснах. Так, писатель Вячеслав Бондаренко посредством Телескопа разоблачает коварные планы Запада относительно военного конфликта:

«Программа-минимум всего, что происходит на восточноевропейском театре тихих военных действий в 2020–2021 годах — это демонтаж современной Белоруссии, программа-максимум — демонтаж России. И Польша здесь играет роль извечного антирусского тарана, за которым стоит остальная Европа...»

А буквально несколькими абзацами ниже он же сообщает нечто обратное:

«Старой Европе военный конфликт с Россией и Белоруссией абсолютно не нужен. И в этом смысле Польша для Европы — токсичное, откровенно опасное государство».

Так Европа использует Польшу в качестве тарана для провоцирования войны или Европе «военный конфликт абсолютно не нужен»? Получается, что Бондаренко противоречит сам себе.

Складывается впечатление, что Кремль готовится к войне, но при этом проводит превентивную пропагандистскую работу, чтобы обвинить в развязывании вооруженного конфликта Запад. Если боевые действия начнутся, то можно будет попытаться свалить вину с больной головы на здоровую.

Впрочем некоторые кремлевские политологи высказываются значительно откровеннее. В интервью Украине.Ру Сергей Марков вслед за Владиславом Сурковым подводит идеологическую базу под предстоящее вторжение (правда, не в Беларусь):

«Россия не будет вводить войска на территорию Украины против Украины. Она может ввести войска только в качестве помощи тем гражданам Украины, которые выступят против марионеточного предательского антиукраинского режима, пришедшего к власти в 2014 году.

Есть четкая формула Владимира Путина, что граждане Украины лишены возможности легальным способом сформировать правительство, которое отвечало бы их чаяниям. Из этого мы можем сделать вывод, что украинским гражданам придется сделать это формально нелегальным способом, возможно, с помощью братского народа России, который окажет ей эту помощь в разных формах — газ по сниженным ценам, ликвидация нацистских подразделений, которые представляют угрозу.

Речь идет не о войне с Украиной или оккупации Украины, а о спасении украинского народа и об освобождении Украины от оккупации.

С моей точки зрения было бы правильно разделение Украины. Запад Украины из-за электоральной поддержки неонацистских партий должен быть лишен права быть частью России, пусть остается где-нибудь с Польшей. Люди на Юго-Востоке это право заслужили, и было бы правильно присоединить их к России».

Вот так, ни больше и ни меньше. Конечно, фантазии Маркова не обязательно будут реализованы, но угроза этого существует.

Так или иначе, кремлевская пропаганда ведет артподготовку к будущей войне. Возможно, артподготовкой всё и ограничится. Однако это очень опасная риторика, которая при неудачном стечении обстоятельств сама по себе может сыграть роль детонатора во взрывоопасной ситуации.

Легкость, с которой «политруки» говорят о войне, вызывает желание для профилактики отправить их в зону реальных боевых действий (например, куда-нибудь в Африку). Может быть, это отбило бы у условных «марковых» охоту исполнять роль «поджигателей».

**Михаил Брошин**
**gazetaby.info**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 16.12.2021 у 17.25**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.